**Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі**



## СВЕТ

### ГАЗІФІКАЦЫЯ Ў СССР

У Савецкім Саюзе ўжо газіфікавана 1800 гарадоў і 48 тысяч малых мястэчак і вёсак. У гэтым годзе павялічыцца дабыча газу ў параўнанні з мінулым на 8 прац. і складзе 238 мільярдаў кубічных метраў, а ў 1975 годзе прадбачваецца эксплуатаваць 320 мільярдаў кубаметраў газу. Прыспяшэнне газіфікацыі гарадоў і вёсак залежыць аднак ад пабудовы газаправодаў, якія пракладаюцца аж у Сібіры і Сярэдняй Азіі.

У бліжэйшыя гады агульная даўжыня новых газаправодаў, якія ў 1975 годзе ўвойдуць у склад сістэмы, забяспечваючай усю краіну гэтым топлівам, складзе 30 тысяч кіламетраў.

### МІТЫНГ У ДОРТМУНДЗЕ

У Дортмундзе (ФРГ) адбыўся мітынг, які быў прысвечаны памяці барацьбітоў-антыфашыстаў з еўрапейскіх краін. Былі яны па-зверску забіты гестапаўцамі незадоўга да заканчэння другой сусветнай вайны на тэрыторыі Ромбергпарка ў Дортмундзе.

На мітынг разам з заходнегерманскімі антыфашыстамі прыбылі госці з ГДР, Савецкага Саюза і Бельгіі.

### АДУКАЦЫЯ ДАРАЖЭЕ

Плата за навучанне ў вышэйшых навучальных установах ЗША за апошнія два-тры гады значна ўзрасла.

Далейшы рост коштаў навучання чакае студэнтаў і ў наступным навучальным годзе. Так, адміністрацыя Чыкагскага універсітэта ўжо аб'явіла, што ў 1973—1974 навучальным годзе знаходжанне ў сценах гэтай навучальнай установы будзе каштаваць кожнаму студэнту яшчэ на 225 долараў даражэй.

### АСУДЖЭННЕ АГРЭСАРА

Савет Бяспекі ААН закончыў разгляд скаргі Лівана. У прынятай рэзалюцыі савет асудзіў „ваенныя нападзенні на Ліван, якія паўтараюцца і ажыццяўляюцца Ізраілем", і заклікаў Ізраіль неадкладна спыніць такія акцыі.

Асноўныя палажэнні гэтай рэзалюцыі можна толькі вітаць. Разам з тым грамадскасць і друк, каменціруючы вынікі пасяджэння Савета бяспекі, адзначаюць, што аднаго толькі асуджэння Ізраіля зусім недастаткова.

### ПАДПІСАННЕ КАНВЕНЦЫІ

24 красавіка ў Маскве адбылося падпісанне канвенцыі аб праваздольнасці, прывілеях і імунітэтах штаба і іншых органаў кіравання Аб'яднаных узброеных сіл дзяржаў — удзельніц Варшаўскага дагавору.

Канвенцыю падпісалі прадстаўнікі сямі дзяржаў.

### ВІЗІТ Л. БРЭЖНЕВА

Па запрашэнню федэральнага канцлера ФРГ В. Брандта Генеральны сакратар ЦК КПСС, член Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Л. Брэжнеў нанясе візіт у Федэратыўную Рэспубліку Германіі. Візіт намячаецца на перыяд з 18 па 22 мая гэтага года.

### У ХЕЛЬСІНКАХ...

...пачаўся чацвёрты этап шматбаковых кансультацый па падрыхтоўцы агульнаеўрапейскай нарады па пытаннях бяспекі і супрацоўніцтва. (АК)



## БССР

### ВЫНІКІ ПЕРШАГА КВАРТАЛА 1973 ГОДА

Статыстычнае ўпраўленне БССР паведаміла, што работнікі прамысловасці Беларускай ССР выканалі план першага квартала па рэалізацыі прамысловай прадукцыі на 102 працэнты. Перавыкананы план выпуску большасці важнейшых відаў вырабаў. Прырост прамысловай вытворчасці ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года склаў 9 працэнтаў. Прадукцыйнасць працы ў прамысловасці ўзрасла на 6 працэнтаў. У параўнанні з першым кварталам мінулага года атрымана больш: нафты — на 41,5 тысячы тон, мінеральных угнаенняў — на 225 тысяч тон, хімічных валокнаў на 5,6 тысячы тон, грузавых аўтамабіляў — на 294 штукі, трактараў — 99 штук, паперы — 3,5 тысячы тон. Узрасла вытворчасць пластычных мас і сінтэтычных смол, падшыпнікаў, запасных частак да аўтамабіляў, трактараў і сельскагаспадарчых машын і многіх іншых відаў прадукцыі.

### ЛЕНІНСКІ СУБОТНІК

Натхнёныя першамайскімі заклікамі ЦК КПСС, імкнучыся дастойна адзначыць 103-ю гадавіну з дня нараджэння У. І. Леніна, працоўныя гарадоў і вёсак ад далёкіх Курыл да Брэста неслі ўдарную эстафету суботніка. Ленінскі камуністычны суботнік 21 красавіка стаў у БССР вялікім святам натхнёнай працы мільёнаў.

### ІМЯ ЛЕНІНА

Савет Міністраў Беларускай ССР прысвоіў Магілёўскаму камбінату сінтэтычнага валакна імя Уладзіміра Ільіча Леніна.

Гэтае хімічнае прадпрыемства — адно з самых маладых у рэспубліцы, але па маштабах вытворчасці ўжо цяпер яго па правілу лічаць буйнейшым у Еўропе. У гэтым годзе камбінат дасць 50 тысяч тон сінтэтычнага валакна, з якога выпускаюцца элегантныя касцюмы, сукенкі, блузы, трывалыя марскія канаты і іншыя вырабы. Магілёўскія хімікі пастаянна павялічваюць выпуск прадукцыі, дабіваюцца павышэння яе якасці.

### У БІБЛІЯТЭЦЫ ІМЯ ЛЕНІНА

Аддзяленне Таварыства савецка-польскай дружбы створана ў Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна, калектыў якой падтрымлівае цесныя сувязі з многімі бібліятэкамі Польскай Народнай Рэспублікі.

Аб традыцыйнай дружбе савецкага і польскага народаў, плённай дзейнасці Таварыства савецка-польскай дружбы гаварылі на ўстаноўчым сходзе дырэктар бібліятэкі Э. Н. Цыганкоў, намеснік старшыні праўлення Беларускага аддзялення Таварыства савецка-польскай дружбы Р. В. Канавалаў.

На сходзе выступіў генеральны консул ПНР у Мінску А. Валяшак.

### ПОЕЗД ДРУЖБЫ З ПОЛЬШЧЫ

25 красавіка прыбыў у Мінск поезд дружбы з Польскай Народнай Рэспублікі. У той жа дзень удзельнікі поезда дружбы зрабілі экскурсіі па Мінску. Яны агледзелі яго выдатныя мясціны, новыя раёны жыллёвага будаўніцтва. 26 і 27 красавіка госці Мінска прадаўжалі азнаямленне са сталіцай БССР і Мінскай вобласцю. (вр)



## ПОЛЬШЧА

### СУСТРЭЧА Э. ГЕРКА З ШАХЦЁРАМІ РОВ

Першы сакратар ЦК ПАРП пабываў у Катавіцкім ваяводстве, дзе пазнаёміўся з рэалізацыяй адной з найбольшых прамысловых інвестыцый краіны — Рыбніцкай вугальнай акругі (РОВ). Першы сакратар наведаў чаргова: шахту ў будове „Пнювэк", новы шахцёрскі гарадок Ястшэмбе, шахту „Машчэніца", а потым сустрэўся з партыйна-гаспадарчым актывам РОВ. Госцю спадарожнічалі першы сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Катавіцах З. Грудзень і старшыня Прэз. ВРН у Катавіцах Е. Зентэк.

### ДЗЯРЖАЎНА-ПАРТЫЙНАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ ПОЛЬШЧЫ НА КУБЕ

Па запрашэнню прэзідэнта Рэспублікі Кубы Асвальда Дарцікоса і ЦК Камуністычнай партыі Кубы пабывала з афіцыяльным візітам у гэтай краіне польская дэлегацыя на чале з членам Палітбюро, старшынёй Рады Дзяржавы ПНР Генрыкам Яблонскім. У склад дэлегацыі ўваходзілі міністр замежных спраў С. Альшоўскі і міністр нацыянальнай абароны В. Ярузельскі.

### НОВЫ ПОЛЬСКІ САМАЛЁТ ДЛЯ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ

Пасля дзесяцігадовага перапынку зноў узляцеў у неба самалёт польскіх канструктараў і рабочых. Гэта сельскагаспадарчая машына PZL-106. Яна здала дасканала экзамен палёту. Яе стваральнікі — працаўнікі ВСК — найстарэйшы калектыў польскай авіяцыйнай прамысловасці. Новая машына была пабудавана ў рэкордным часе — на працягу сямі месяцаў. Яна лепшая па якасці ад вядомых „Гаўронаў". Канструктарам новай машыны з'яўляецца Андрэй Фыдрыхевіч.

### РАСТУЦЬ ЗАДАННІ ГРАМАДСКІХ І ГУМАНІТАРНЫХ НАВУК

У гмаху ЦК ПАРП у Варшаве адбылася двухднёвая партыйная нарада грамадскіх і гуманітарных навук. Было 200 прадстаўнікоў. У нарадзе ўдзельнічалі таксама прадстаўнікі дакладных і прыродазнаўчых навук. Ад імя ЦК ПАРП прысутнічалі: член Палітбюро — сакратар ЦК Ф. Шляхціц, члены Сакратарыята ЦК ПАРП — Р. Фрэлек і А. Вербляи, а таксама міністр асветы і выхавання Е. Кубэрскі. Асновай для дыскусіі былі даклады: навуковага сакратара І аддзялення ПАН праф. др Уладзіслава Маркевіча „Стан і перспектывы развіцця грамадска-гуманітарных навук" і даклад намесніка кіраўніка аддзела асветы і навукі ЦК праф. др Ярэмы Мацішэўскага „Грамадскія і гуманітарныя навукі ў ідэалагічнай і палітычнай дзейнасці партыі і ў рэалізацыі праграмы прыспяшэння грамадска-эканамічнага развіцця Польшчы".

### ПОМНІК У. І. ЛЕНІНУ Ў НОВАЙ ГУЦЕ

У Новай Гуце быў урачыста адкрыты помнік В. І. Леніну. Трансляцыю з гэтай урачыстасці правяла Польская тэлевізія на Інтэрвізію.

### ПОЛЬСКАЯ АДЗЕЖА Ў СССР

Сярод замежных пакупнікоў польскай адзежы і розных баваўняных вырабаў першае месца займае СССР. Польская адзежа рознага роду карыстаецца тут вялікім поспехам. (вл)



## ВАЯВОДСТВА

### З ПАСЯДЖЭННЯ ЭКЗЕКУТЫВЫ ВК ПАРП

27 красавіка адбылося чарговае пасяджэнне Экзекутывы ВК партыі, на якім была прынята гарманаграма выканання праграмы дзейнасці ВК партыі і ПВРН, прынятай на апошняй Ваяводскай справаздачна-выбарнай канферэнцыі. Прапануецца апрацаваць уласныя праграмы выканання пастаноў Ваяводскай канферэнцыі прафсаюзам, маладзёжным арганізацыям, сельскагаспадарчым гурткам, спулдзельчым і іншым установам. На пасяджэнні разглядалася справа падрыхтоўкі да святкавання Першамая і высланы былі віншавальныя пісьмы 35 прадпрыемствам Беласточчыны, якія дабіліся найлепшых вынікаў у працы за І квартал гэтага года. Прынята была таксама пастанова аб стварэнні ганаровай „Залатой Кнігі", у якую будуць упісаны перадавікі працы на прадпрыемствах і перадавыя сяляне. Першы запіс у гэтай кнізе будзе зроблены 21 ліпеня гэтага года.

### ДЗЕНЬ ТЭКСТЫЛЬШЧЫКА

Напярэдадні Дня тэкстыльшчыка група перадавых рабочых з „Фаст", фабрыкі імя Сяржана, беластоцкай пасмантэрыі, з замброўскага камбіната і шэрагу прадпрыемстваў з Бельска, Элка, Сувалкаў, Гарадка і іншых былі запрошаны на сустрэчу з ваяводскімі ўладамі. На сустрэчы, якая адбылася на Беластоцкім прадпрыемстве ваўнянай прамысловасці імя Сяржана, прысутнічалі І сакратар ВК ПАРП З. Куроўскі, сакратар ВК ПАРП М. Недзведзь, намеснік старшыні Прэзідыума ВРН Е. Зентара, І сакратар ГК ПАРП у Беластоку Р. Жукоўскі, кіраўнік эканамічнага аддзела ВК ПАРП С. Зялінскі, намеснік старшыні Прэзідыума МРН В. Садоўскі і іншыя. На сустрэчы гаварылася аб дасягненнях прадпрыемстваў і іх цяжкасцях, аб жыллёвых клопатах рабочых, аб мадэрнізацыі на прадпрыемствах і інш.

### РАДА ФЕДЭРАЦЫІ

25 красавіка ў Беластоку адбылося першае пасяджэнне Рады Ваяводскай федэрацыі сацыялістычных саюзаў польскай моладзі. У пасяджэнні ўдзельнічалі кіраўнікі ваяводскіх і павятовых праўленняў маладзёжных арганізацый. Госцьмі на пасяджэнні былі І сакратар ВК ПАРП З. Куроўскі, старшыня ВК СД З. Пукорскі, віцэ-прэзас ВК ЗСЛ К. Дунай, ваяводскі камендант МО плк. Б. Нарэнгоўскі, кіраўнік аддзела прапаганды ВК ПАРП Ю. Альшэўскі і намеснік кіраўніка аддзела прапаганды ВК ПАРП К. Пятроўскі. На пасяджэнні быў выбраны выканаўчы камітэт Рады Ваяводскай федэрацыі сацыялістычных саюзаў польскай моладзі. Старшынёй Рады выбраны старшыня ВП ЗМС Б. Заслона.

### НАЙЛЕПШЫЯ Ў КРАІНЕ

Многія беластоцкія сельскагаспадарчыя ўстановы і арганізацыі занялі вельмі добрыя месцы ў спаборніцтве на найлепшыя вынікі ў працы. І месца ў краіне заняла беластоцкая Цэнтраля агародніпных спулдзельняў, Ваяводскі саюз малачарскіх спулдзельняў і беластоцкае прадпрыемства „Агрома". Агароднінна-пчалярская спулдзельня з Элка заняла трэцяе месца. А беластоцкая „Вітаміна" і бельская РСОП занялі першае і другое месца ў „трускалкавым" конкурсе. (яч)




NIEDZIELA 6.V.

7.40 Program dnia. 7.45 TV Kurs Rolniczy. 8.20 „Przypominamy, radzimy". 8.30 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 9.00 TELERANEK. 10.20 „Antena". 10.35 „W starym kinie". 11.30 „Mistrzowie batuty". 12.40 Dziennik. 12.15 Sportowy magazyn sprawozdawczy. 14.15 „Budownictwa ciąg dalszy" — program wiejski. 14.15 Losowanie Totolotka. 15.00 Dla dzieci: TV Teatr Lalek — K. Makuszyński „Szewc Kopytko i Kaczor Kwak". 15.50 „Piosenka dla Ciebie". 16.40 „Śladami Piastów Śląskich" — Brzeg nad Odrą. 17.10 „Wielka gra". 18.00 „Kryteria". 18.15 „Tele-Echo". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Wyzwolony" — film pol.-franc. („Wielka miłość Balzaka") odc. ostatni. 21.15 PKF. 21.25 „360 stopni wokół Pereta" — program rozr. hiszp. 22.15 Magazyn sportowy.

PONIEDZIAŁEK 7.V.

12.45 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Botanika. 15.20 i 23.00 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Zwierzyniec", „Obserwatorium". 17.30 „Echo stadionu". 17.55 TV Kurier Lubelski. 18.10 „Oferty". 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr TV: A. Decaux — „Bunkier". 21.40 „Sezam". 22.10 „Pieśni i tańce narodów Jugosławii". 22.40 Dziennik.

WTOREK 8.V.

9.50 „Wyzwolony" — film pol.-franc. („Wielka miłość Balzaka") odc. ostatni. 10.55 Dla szkół: (kl. V—VI) Język polski — W. Wiśniewski „Zapamiętaj, to był rok..." („O miejsce wśród ludzi"). 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 TELEWIZJA MŁODYCH. 18.10 Przed Wyścigiem Pokoju. 18.20 TV Kurier Mazowiecki. 18.40 „Poligon". 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Piosenki w mundurze" — występy zespołów wojskowych. 21.00 Dzień pierwszy" — rep. film. 21.20 FILMOTEKA ARCYDZIEŁ: „Niepotrzebni mogą odejść" — film fab. ang. 23.15 Dziennik. 23.30 Wiadomości sportowe.

ŚRODA 9.V.

7.55 FILMOTEKA ARCYDZIEŁ: „Niepotrzebni mogą odejść" — film fab. ang. 9.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „Wędrówki ciepła". 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — „Fale elektromagnetyczne". 12.45 TV Technikum Rolnicze: Zoologia. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt. 14.00 „Wybieramy zawód". 15.20 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.45 Sprawozdanie z trasy XXVI Wyścigu Pokoju. Jazda indywidualna na czas w Pradze — 19 km. 18.20 TV Kurier Warszawski. 18.40 Publicystyka międzynarodowa. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Berliński finał" — film dok. 21.05 „Urwisko Marii" — film radz. („Cienie zanikają w południe") odc. IV. 22.20 Gra Reprezentacyjna Orkiestra Wojska Polskiego. 23.05 Dziennik. 23.20 Kronika Wyścigu Pokoju. Wiadomości sportowe.

CZWARTEK 10.V.

9.00 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — „Poezja polskiego Oświecenia". 9.55 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — „Eliza Orzeszkowa". 10.30 „Urwisko Marii" — film radz. („Cienie zanikają w południe") odc. IV. 14.00 Matematyka w szkole: „Funkcje, równania i nierówności". 15.00 TV Technikum Rolnicze: Zoologia. 15.30 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt. 16.05 Program dnia. 16.10 „Informacje, Towary, Propozycje". 16.30 Dziennik. 16.45 Sprawozdanie z trasy XXVI Wyścigu Pokoju. I etap na trasie Nehvizdi — Pardubice. 17.30 „Profile kultury". 17.55 „Idzie żołnierz borem lasem" („Z teki folklorystycznej Adolfa Dygacza"). 18.25 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 Program publicystyczny. 19.10 „Przypominamy — radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr Sensacji: J. Janicki — „Akcja V" (na motywach książki M. Wojewódzkiego („Akcja V-1, V-2"). 21.15 „Refleksje". 21.45 PKF. 21.55 „SAT" — Satyryczna Agencja Telewizyjna. 22.05 Dziennik. 22.30 Kronika Wyścigu Pokoju. Wiadomości sportowe.

PIĄTEK 11.V.

8.30 Film dokumentalny. 9.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie obywatelskie — „Z myślą o Was". 10.55 Dla szkół: (kl. II) „Czerwony kur". 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia — „Ceramika". 12.45 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 13.25 TV Technikum Rolnicze. Język polski. 15.20 i 23.10 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Sprawozdanie z trasy XXVI Wyścigu Pokoju. II etap na trasie Pardubice — Brno. 17.35 „Nie tylko dla pań". 18.00 „Gramy o telewizor". 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Za kierownicą". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Spotkanie z Barbarą Krafftówną". 20.50 „Panorama". 21.30 Teatr TV: J. Broszkiewicz — „Przepis ze starej kroniki". 22.30 Dziennik. 22.45 Kronika Wyścigu Pokoju. Wiadomości sportowe.

SOBOTA 12.V.

8.00 „Gdy nadejdzie wrzesień" — film fab. USA. 9.55 Dla szkół: (kl. VII) Zoologia — „Ssaki". 10.55 Dla szkół: (kl. VIII )Nauka o człowieku — „Sprawy 15-latków". 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Geografia — „Polska na morzu". 14.20 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 14.55 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 15.25 Program dnia. 15.30 Program I proponuje. 15.50 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.05 TV Informator Wydawniczy. 16.30 Dziennik. 16.45 Sprawozdanie z trasy XXVI Wyścigu Pokoju. III etap na trasie Brno — Dubnica. 17.30 Dla młodych widzów: XXVIII trójmecz harcerski. 18.35 „Godzina Orfeusza". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 Teatr Rozrywki: F. Sagan — „Zamek w Szwecji". 21.50 Dziennik. 22.05 Kronika Wyścigu Pokoju. Wiadomości sportowe. 22.25 „Gdy nadejdzie wrzesień" — film fab. USA.




**Piątek, 4 maja**

7.45 Dla dzieci. 8.15 Film fab. 11.15 Szkoła szachowa. 11.45 Filmy dokument. 14.25 Program dnia. 16.10 Ekran i czas. 17.00 Przegląd filmowy. 17.50 Wesoła wdówka. Operetka. 19.00 Czas. 19.30 c.d. operetki. 21.00 Koncert estradowy. 21.30 Panorama nowin.

**Sobota, 5 maja**

7.00 Program dnia. 7.30 Dla dzieci. 7.50 Koncert wiosenny. 8.30 Film dokument. 8.45 Koncert. 9.30 Mozaika muzyczna. 9.45 Przegląd międzynarodowy. 10.00 Dla dzieci 11.00 Film fab. 13.50 Koncert. 14.45 Filmy animowane. 16.10 Film dokument. 16.30 O balecie. 17.50 Spektakl. 19.00 Czas. 19.30 c.d. spektaklu. 20.45 Mistrzostwa ZSRR w szermierce.

**Niedziela, 6 maja**

7.00 Program dnia. 8.00 Dla żołnierzy. 8.30 Kiosk muzyczny. 9.45 Filmy animowane. 10.15 Film fab. 12.00 Koncert życzeń. 13.30 Hokej. „Spartak"—„Skrzydła Rad." 3 tercja. 15.00 Klub filmowy. 17.00 Piłka nożna. „Dynamo" (Kijów)—CSKA. 2 połowa. 18.00 Czas. 18.30 Koncert.

БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ

№ 172

# Уладыслаў Стжалецкі

**Мы ўжо пазнаёмілі чытачоў „Нівы“ з творчасцю лодзінскага паэта Уладыслава Стжалецкага. Паэт гэты — прыхільнік творчасці У. Бранеўскага. З'яўляецца староннікам грамадзянскай лірыкі. Сёння знаёмім чытачоў з двума яго вершамі, ілюструючымі апяваенную атмасферу „працы і надзеі“. Вершы гэтыя выбраны намі са зборніка Стжалецкага „Спеў аб Лодзі“.**

**I.**

Світае, рвуцца хмары, золак
І смелы дзень людзей вітае,
І той, хто быў галодны, голы,
Сёння ў рукі ўзяў лёс краю.

Хто з намі — той у маршы к зорам,
Хто супраць — той у цемру крочыць,
Людзям — таварыш, — мы гаворым,
Людзям глядзім мы проста ў вочы.

Надзённы хлеб расце у міры,
Кожны народ далонь прыложыць
Святлу прастор! святлу больш шыры!
Хай будзе свет заўжды прыгожым.

Мы у будоўлях і ў загонах
Знойдзем для сэрца заўжды глебу,
Няхай расце яно з паклонам,
Хай вырастае ржаным хлебам.

Мы ў барацьбе і ў працы разам
Зрабілі шмат, а зробім болей,
І у вянок мы радасць звяжам,
Вянок супольнай шчаслівай долі.

**II.**

Бі працай, дружа! Добры спосаб.
Разбіў над намі хмары золак,
З зямлі, з зярнят растуць калоссі,
Каб назаўсёды знішчыць голад.

Хутчэй і лепш! — крычаць заводы,
І з вокан хат смяюцца кветкі,
І прыгажэем з кожным годам,
Расцем вышэй мы з кожным летам.

І ў сонца сёння, ў свежы вецер
Дзень са снапом ідзе ў далонях
Сябры!
хай будзе мір на свеце!
І цемру хай святло прагоніць.

**Пераклаў А. Барскі**






Дзе Ваня?

— Некуды пайшоў.

Міколка пастаяў, пагледзеў на Алку — шасцігадовую сястрычку свайго сябра — і адчыніў веснічкі, каб выйсці на дарогу. „Вось дык нумар, — падумаў ён пра Ваню. — Дамовіліся, што будзе чакаць, а сам змыўся“.

— Ён у Аліка, — крыкнула наўздагон Алка. — Робяць шпакоўню.

Сапраўды Ваня быў у Аліка, але нічога яны не рабілі. Сядзелі на прызбе і глядзелі, як чорны грак ламае бярозавыя галінкі. Вось ён залапатаў крыламі і цяжка, нібы бамбавоз, узняўся ў гару, маючы на дзюбе галінку. Прыйшла вясна — грак заняўся будаўніцтвам жылля.

— Глядзі, — сказаў Ваня, — Міколка ідзе.

— Сюды! — клікаў той таварышаў, махаючы рукой.

Міколка стаяў, задраўшы галаву, і ўглядаўся на бярозу.

Калі Ваня з Алікам падбеглі, спытаў:

— Паглядзіце, што гэта там блішчыць?

У тым месцы, дзе грак ламаў галіны, нешта блішчэла, пералівалася вясёлкай.

— Кропля вады, — абыякава паціснуў плячыма Ваня.

— Адкуль яна ўзялася? Дажджу пяты дзень як няма, — задуменна працягнуў Міколка.

— А я ведаю, што гэта такое, — узрадавана паведаміў Алік. — Гэта бярозавы сок.

— Дык хутчэй нясі бутэльку і сякеру, прапанаваў Ваня. — Зараз будзем піць.

Алік пабег у хату і хутка вярнуўся з вялікай сякерай і паўлітровым слоікам. Ён закасаў рукавы каляровай сарочкі і пачаў сячы дрэва. Ваня сцізорыкам выразаў дзірван і прыстасаваў слоік пад самым парэзам. Хлопцы пачалі чакаць. У гэты момант аднекуль з'явілася Алка.

Яна ўбачыла слоік і стала клянчыць, каб ёй далі соку. Дно слоіка прыкрывала мутная вадзіца. Хлопцы глядзелі на яе і глыталі слінку.

— Паспрабуем, — не вытрымаў Алік.

— Давай, — згодна кіўнулі сябры.

Яны зрабілі па глытку, і сок кончыўся.

— А мне? — раптам заплакала Алка. Яна так моцна разрымзалася, што з хаты выйшаў бацька Аліка.

— Чаго ты плачаш? — спытаў ён.

— Самі п'юць, а мне... — і яшчэ больш зайшлася.

— Хто тут такі разумны сячы дрэва? — закрычаў бацька. — Вон адсюль, каб вашай нагі не было. Бач, што надумалі.

Хлопцаў як ветрам здзьмула. Яны выскачылі на дарогу і, калі небяспека засталася далёка ззаду, спыталі ў Аліка:

— Чаго ён такі злосны?

— Адкуль я ведаю, — паціснуў той плячыма.

Параіўшыся, хлопцы разышліся па хатах, а потым сустрэліся за сялом на дарозе, якая вяла да горада. Паабапал яе раслі высокія бярозы. Міколка прынёс сякеру, Ваня і Алік — слоік і зялёную бутэльку. Хутка падсеклі дрэва, але чамусь з яго не пацёк сок. Тады выбралі маладзейшую бярозу. І не памыліліся.

З хвойніку прынеслі сухога ламачча, распалілі касцёр. Ад агню стала весела, захацелася пагуляць. Час бег, і сябрукі не заўважылі, як ля вогнішча з'явіўся чужы чалавек.

— Дзень добры! — прывітаўся той, абапіраючыся на сухі кій.

— Дзень добры, — адказалі хлопчыкі і ўсталі.

— Грэемся? — запытаў прышэлец, пераступіўшы з нагі на нагу, і ўсе пачулі, як адна з іх скрыпнула. Пэўна гэта быў пратэз.

— Сок збіраем, — паведаміў Міколка, паказаўшы на бярозу. Знізу яна абрасла сівым мохам, на цёмнай кары зіхацела вялікая белая рана. Побач — другая.

— Сок, кажаце? — перапытаў чалавек, сеў на пень, выцягнуў роўную нагу і, зняўшы капялюш, выцер узмакрэлы лоб. — А не здаецца вам, хлопцы, што робіце вы дрэнную справу?

— Чаму? — здзіўлена спыталі хлапчукі. На іх тварах з'явіліся прыкметы страху і недаўмення.

— Губіце дрэва, — коратка паведаміў незнаёмы. — Такая рана ўжо не зажыве. Бяроза стане хварэць, а потым высахне.

Хлопчыкі пераглянуліся. Яшчэ большы страх апанаваў іх. Яны прыпомнілі, як бацька Аліка раззлаваўся, калі ўбачыў падсечанае дрэва. Але ж яны спадзяваліся, што зазлаваў ён з-за Алкі.

Тым часам незнаёмы працягваў гаворку: **(Працяг на стар. 4)**

# КРАСКІ

Надзяліла вясна
Яркіх красак
Зноў жыцця — хараства
Добрым часам.

На лугах дываны
Саматканы,
Ля дарог ручнікі
Вышываны

Кожна краска зіхціць
Фарбай пекнай,
Пчолы і матылі
Бяруць нектар.

Прыляцеў грозны чмель,
Прысеў ціха.
Мёд салодкі бярэ
Ён з кіліха.

Рве дзяўчына ў прыпол
Вясны краскі.
На свой першы вянок —
Вянок шчасця.

**Ул. Гайдук**

# Людскі плач

Вялікі кроплі каціліс
па мяккім твары
аксаміце
напаўняючы маршчыны
каціліс
вялізныя кулі
на шырокія
далоні.

Аддзяляючы цябе
празрыстым шклівам
ад свету
памагалі
вясці нас
па
зарослых буйнай зеленню
жыццёвых сцежках

А цяпер —
дзе знойдзеш
ключ
ад сэрца твайго.

**Мар'я Семянюк**



**На бельскай гаворцы**

# Прыехаті вэсною на вёску

на прызьбі сонця туолько
жэ котамі сплошыті
трудно

высадіт езёра
высадіт калюжіэ

тато шчэ в кожухові
мама ніткі льнянэ прадэ

так — повтораю
і рукою
нібы од сонця

Юрэк ужэ нэ рысуе
стрiэляе сьліну і копе мячык
кажу — вартовало бы тыі
ніткі пэрэклясыфіковаті
і сшіті дзюравэ нэбо

а коло нас колодэць
клічэ журавлюв
хутко ужэ росцвітэ
платкамі вішні.

**З. Сачко**



# Яе пачатак жыцця

На трэці год пасля шлюбу закончыў універсітэт, і стала вельмі добра. Яна нарадзіла дзяўчынку. Потым хлопчыка — тады сказалі ёй, што муж заходзіць да прыгожай адукаванай удавы.

Зразумела: ён надта пэўны — і зрабіла глупства; узяла казённыя грошы, каб выхарашыцца. Многа, у судзе вылічана да грашака — потым. У следчым арышце прыйшлі па яе і вывезлі ў бальніцу псіхічна хворых. Там падрэзала сабе жылы паламанаю лыжкаю, даведаўшыся, што муж пачаў справу аб разводзе (жыў ужо з удавою).

Засудзілі на чатыры з паловай гады, з якіх прасядзела тры. Вярнулася ціха, як сава. Удава з зязюльчынай ахвотаю аддала ёй дзяцей (яго яна не ўбачыла). Дзяўчынка цешылася, хлопчыку было яшчэ ўсё роўна.

Узялася жыць.

**Сакрат Яновіч**






Стаіць стол
і прыглядаецца да столі,
а столь яму здаецца небам...
Стаіць устойліва
на самай сярэдзіне пакоя,
упершыся нагамі у падлогу,
нібы займаў ён
цэнтр сусвету.
Калі не зварухнеш,
сам з месца не кранецца —
такі ён важны,
хоць і галавы не мае.
Затое ног ён мае аж чатыры
ды ўсе сталовыя,
што не згінаюцца ніколі
і не сыйдуць з дарогі
ніякаму аўтарытэту.
Аднак, нягледзячы
на сваё зазнайства,
ўсё ж дружбу знае
ды з крэсламі
жыве ў згодзе.
Як патрыярх які
з сваім пляскатым тварам,
на крэслы дазваляе ён прысесці —
газету пачытаць,
пагутарыць, паесці...

**У. Шклярук**

* ⁂ *

Схавай свае словы
Што раняць
Схавай свае вочы
Што не ўсё бачаць
Схавай свой смех
Што
Не дае мне спакою
Да сёння...

**Надзя Артымовіч**

## Так бывае...

Не ўсе бацькі роўныя, не ўсе чулліва адносяцца да сваіх дзяцей. Ёсць бацькі, якія за малейшую дробязь, за малейшае правіненне б'юць дзяцей. Фізічнае пакаранне — гэта свайго роду зняволенасць, знішчае асабовасць дзяўчынкі ці хлопчыка, знішчае пашану да бацькоў.

А ёсць яшчэ бацькі, у якіх дзеці няроўныя, адны лепшыя, другія горшыя, адны каханыя — другія некаханыя, адным можна ўсё — другім нічога.

# НЕСПРАВЯДЛІВАСЦЬ

Гэтак было і ў сям'і К. на Гайнаўшчыне. Надзя была любіміцай, а для Зіны ўсе правы былі абмежаваны. Нягледзячы на тое, што яна была на некалькі гадоў малодшай, Надзю і да лягчэйшай работы бралі і смачнейшае есці давалі і вопратку прыгажэйшую куплялі. А калі яна скончыла пачатковую школу, у сярэднюю, у Бельск накіравалі. Іншыя адносіны былі да Зіны, нельга было ёй нікуды хадзіць. Яе абавязак — пільнаваць малодшага брата і ўсё тое рабіць, што маці або бацька скажа. Не мела яна вольнай хвіліны. Была працавітай і дакладнай ва ўсім. І не хітрая была, не лгала так, як Надзя.

Аднойчы школьнікі ў цырк сабраліся — у Гайнаўку. Зіна таксама вельмі хацела пабачыць, што гэта такое, той чароўны цырк. Аднак не выпрасіла пару злотых у бацькоў. Дала ёй на білет у цырк бабуля. Школьнікі цягніком паехалі, а яна не мела чым заплаціць за цягнік і бегла 13 кіламетраў у Гайнаўку, а пасля вечарам, паплакваючы, вярнулася дамоў. Калі скончыла пачатковую школу, бацькі аддалі Зіну ў паслугі да сваякоў — настаўнікаў у Беластоку. Там рабіла ўсё: мыла, варыла, гарод капала, дзяцей даглядала, а летам у вёску на жніво настаўнікі да сваіх сваякоў адсылалі. Сваячніца-настаўніца была не жанчына, а проста нікчэмніца. Нават біла Зіну, калі знервуе яе муж. Урэшце дзякуючы добрым людзям Зіна вырвалася са сваяцкай няволі і ў чужых людзей пачала працаваць за грошы. Не была яна доўга ў роднай хаце, і хацелася паехаць дамоў. Бацька не падаў ёй нават рукі і накінуўся на яе за тое, што траціць яна грошы на паездку. Родная хата не была ёй мілай. На новым месцы працы ёй было прыемней.

Хутка пазнаёмілася Зіна з маладым чалавекам і пачала марыць аб вялікім каханні, аб шчаслівым сямейным жыцці. Выйшла замуж. На вяселле прыехала толькі маці, а бацькі мужа зусім не прыехалі, быццам таму, што Зіна з беднай сям'і.

У Зіны распачалася новая карта жыцця. Любілі яе знаёмыя, суседзі за яе ветлівасць, шчырасць, працавітасць, акуратнасць, чысціню, ашчаднасць. А муж запіваўся, валачыўся з рознымі жанчынамі. Зіна пачала пратэставаць, і за гэта муж пачаў яе біць. Лічыў, што паступае правільна. Так паступаў яго бацька, які не навучыў яго жыць па-чалавечы. Муж Зіны мо быў бы і не дрэнным чалавекам, але выхаваўся ў такой сям'і, дзе бацька быў усім, а маці амаль зусім нічым. Не мела яна ў хаце ніякага голасу. Сын глядзеў на гэта, ухланяючы ў сябе зло. Мо думаў, што так быць павінна, што такая сітуацыя з'яўляецца нармальнай. Аб тым, што можа быць іншае сужыццё, мабыць, і не ведаў. І ён штораз часцей біў Зіну па галаве і абзываў яе рознымі словамі. Яна ўцякала з хаты, калі муж прыходзіў п'яны і пачынаў скандаліць. А калі паявілася ў іх дзіцё, яна перастала маўчаць і за дапамогаю звярталася ў міліцыю. Муж тады зусім азвярэў. Стаў даказваць, што яна не глядзіць дзіцяці, што запіваецца, што да яе прыходзіць мужчына і ён іх часта выганяе з хаты. Заехаў нават у родную вёску Зіны і там ачарніў яе. Ачарняў яе і перад міліцыянтамі. А як забраў ён ад жонкі, калі тае не было ў хаце, усю мэблю і парэзаў яе вопратку, міліцыя арыштавала яго. І ўрэшце дайшло да разводу. Усе закіды мужа не пацвердзіліся. Зіна цяпер разведзеная. І далей салідная, далей чалавечая і працавітая. Ведаюць аб гэтым на рабоце, і суседзі, і знаёмыя. Але, на жаль, нешчаслівая. І крыўдна, што добраму чалавеку прыпадае марны лёс...

**Міхась Хмялеўскі**

## ФАЛЬКЛОР

**ЛЮБОЎНАЯ**

Andante

Ля-ціць гал-ка це-раз бал-ку, Та й, ля-ту-чы, кра-чэ.

Ма-ла-да-я дзяў-чы-нач-ка хо-дзіць га-ем, пла-ча.

*Ляціць галка цераз балку,*
*Та й, лятучы, крачэ.*
*Маладая дзяўчыначка*
*Ходзіць гаем, плача.*
*Не пускае яе маці*
*Рана да крыніцы,*
*Ні жыта жаці,*
*Ні лёну збіраці*
*Та й на вечарніцу.*
*Раз увечары, пазненька,*
*Як маці заснула,*

*Вышла слухаць салавейка,*
*Бо з роду не чула.*
*Вышла, стала пад вярбою*
*Та й дзівіцца ў воду:*
*— Цяжка, цяжка, мама!*
*Важка, важка, мама,*
*На што дала ўроду?*
*Цяжка, цяжка, мама,*
*Важка, важка, мама,*
*На што дала ўроду.*

Ад Ніны Мушынскай, 1910 года нараджэння, — вядомага дзеяча на ніве беларускай народнай культуры ў Польшчы, якая жыве ў мястэчку Гарадок, Беластоцкага павету, запісаў 24 студзеня 1973 г. Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіў Эдуард Гойлік.

## Пра даўніх нараўскіх арэляў

**Орэлю, орэлю,**
**Злапай мне, Матрэлю,**
**Прывезі дадому,**
**Не скажы нікому!**

Вясной выходзілі калісь дзяўчаты на бераг ракі Нарвы і заспеўвалі гэтак яе бурлівыя воды і людскую працу на ёй. Праца была цяжкая, а выконвалі яе людзі, якіх звалі арэлямі. Яны ж аж дзесьці з Белавежскай пушчы сплаўлялі дрэва ў далёкія краіны.

Ва ўражлівай памяці Анны Стахіюк захаваліся гэтыя далёкія вобразы, як за лёгкай імглой. Была малой дзяўчынкай, калі яшчэ арэлі плылі на сваіх плытах з хваляй. Як з даўно прачытанай кніжкі, вымае кусочкі памяці: моцныя праменні веснавога сонца, на Нарве з грукатам трэскаюць ільды, паплылі крыгі; выбягаюць дзяўчаты, жанчыны і ўсе трасцяніцкія аднавяскоўцы, стаяць на берагу ракі. Хтосьці зацягнуў старую песню пра арэляў. Рака выглядае грозна.

Хросны бацька Анны быў арэлем.

*

Прайшлі дзесяткі год. Нялёгкае дзяцінства і віхура вайны сусветнай. На трасцяніцкім беразе ракі Нарвы стаяў чужы, злосны чалавек. Забіваў і нішчыў. І ён прайшоў, як чорная хмара. І зноў па-старому паплылі воды ў вялікай рацэ.

Працуе ў роднай вёсцы на гаспадарцы наша сімпатычная Анна Стахіюк. Вырасціла чатырох сыноў. І кахае даўнюю песню пра арэляў.

А вясной 1973 года, вось цяпер, нядаўна, напісала нам пра жыццё даўніх нараўскіх арэляў.

„Успамінаю цяжкія гады, калі наш люд вясковы не мог нідзе зарабіць ані граша. Толькі ты адна, наша рэчка Нараў, была для нас ласкавай маткай. Самыя бедныя людзі з вёскі займаліся рыбалоўляй і плаўкай дрэва. Як толькі паплылі, бывала, першыя крыгі ільду, сыны бедных бацькоў ішлі на арэльку. У торбачку клалі сухароў жменю, сахарыну, бо цукру не было за што купіць і старога сала. Ішлі выконваць цяжкую працу. Абледзянелымі рукамі звязвалі тоўстыя бярвенні, званыя гленямі, з цяжкімі вёсламі ў руках, з нагамі ў лапцях, абкручаных палатном, плавілі дрэва па рацэ Нарве аж у Тыкоцін. І песня такая вось навяваецца на вусны:

Па рацэ глыбокай, разлітай шырока,
Што Нараў ёй назву даў люд.
Са звонкаю песняй па гленях прамокшых
Плывуць нашы хлопцы — арэлі іх звуць.
Плывуць і спяваюць пра любы дзяўчаты,
Што дзесь над ракою палотны сцелюць...
А глені памалу вецер заносіць.
Стаіць над ракою вярба.
Арэлі паволі знікаюць у далі,
Ў Тыкоцін нясе іх вада.
Яны не баяцца ні працы, ні бураў!
Для любых сваіх падарункі нясуць.
А дзеўкі зноў з песняй палотны збіраюць,
Каб босыя ногі арэляў абуць".



*Анна Стахіюк на цэнтральным аглядзе «Беларуская песня — 73», на якім атрымала ўзнагароду за фальклорныя песні. Выступіла ў беларускім народным уборы ўласнага вырабу.*
*Фота А. Карпюка.*

„Капай для сябе яму!.." Але і так нічога не выдушылі з хлопца і пусцілі...

— Смерць нам тут часта ў вочы заглядала, — успамінае Уладзімір Германюк з Доўгага Броду, якому тады было каля 35 год, і ён сам быў партызанскім сувязным і дапамагаў партызанскаму атраду імя Хмяльніцкага стварыць уздоўж чыгункі Гайнаўка—Чаромха сетку сувязных. — Адразу, як толькі прайшоў фронт і ў пушчы паявіліся партызаны, пранік да іх нямецкі шпіён і пачаў „сыпаць" партызанскіх сувязных і людзей, прыхільных партызанам. Так загінулі Змітрок Кендысь з Пескаў, Кастусь Клімук са Старыны, Аляксандр Міхалоўскі з Круглага і многа іншых. А былі і тутэйшыя здраднікі. Вось даваенны войт, што жыў у Белай Стражы, даносіў немцам і на былых камуністаў і на іншых людзей. Жандарскія буды штораз кружылі па вёсках і збіралі сваё крывавае жніво...

— І ўсё ж людзі памагалі партызанам, як толькі маглі, — заўважае Сяргей Германюк. — Недзе вясной 1944 года з самалёта скінулі партызанам амуніцыю і рынштунак. Праз памылку, відаць, адзін парашут упаў па ўзлессі. Мы з Валікам наткнуліся на яго. У скрынках былі патроны да аўтаматаў. Сказалі мы пра знаходку свайму дзядзьку Уладзіміру Германюку, а ён перадаў пра гэта партызанам. Прыйшлі яны да нас надвячоркам, мы і завялі іх на тое месца. Абрадаваліся партызаны. Ва ўзнагароду далі нам па навюсенькім электрычным ліхтарыку, падзякавалі нам і нашаму бацьку...

У жніво 1944 года вызваленне святкавалі ўсе — сяляне, партызаны, салдаты Савецкай Арміі. І песні аб шчасці жывых перапляталіся з сумам і плачам па загінуўшых. Інакш, здаецца, больш ярка і ласкава свяціла сонца. Але неўзабаве прыйшлі страшныя ночы. Банды палявалі на членаў ППР і тых, хто актыўна ўключыўся ў будаўніцтва народнага ладу на тутэйшай зямлі. Ганяліся за Германюком Уладзімірам, шукалі Фёдара Германюка — бацьку Сярожы і Валіка. Датла спалілі вёску Вілюкі, застрэлілі малодшага Германюка — родзіча Германюкоў з Доўгага Броду.

Цяжка ішла адбудова ваенных знішчэнняў, натужна. Але новае брала сваё.

Валянцін Германюк пайшоў вучыцца, і сёння ён маёр Войска Польскага. Валянціна Германюк выйшла замуж, жыве і працуе ў далёкім Згажэльцы. Іх бацька пайшоў працаваць на дзяржаўную службу. Цяпер ён пенсіянер і жыве з сям'ёю ў Аўгустове, з'яўляецца актывістам аўгустоўскага гуртка БГКТ. А на бацькоўшчыне жыве і гаспадарыць Сяргей Германюк.

Прасторны панадворак, салідныя гаспадарчыя будынкі і акружаны дрэвамі дом. У доме, як у шклянцы, чысценька і ўтульна. Электрычнасць, радыё, тэлевізар і цішыня.

Жонка Сяргея Германюка сядзіць на крэсле ля акна і вяжа з белай воўны шкарпетку.

— Усе дзеці вучацца, — з задавальненнем кажа яна. — Старэйшы сын Валянцін у Галоўнай школе сельскай гаспадаркі ў Варшаве на факультэце тэхналогіі драўніны. Міхал жа — студэнт чацвёртага курса матэматычнага факультэта Варшаўскага ўніверсітэта. Павал займаецца ў Электрычным тэхнікуме ў Беластоку ў чацвёртым класе, на радыё-тэлевізійным аддзяленні. Дачка Антаніна вучыцца ў першым класе Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы. Ці змаглі б мы іх вучыць, калі б не дапамога дзяржавы? — задае яна сама да сябе пытанне.

— А што плануеце для найменшага? — пытаюся.

— Ну, нашага Юрачку то мы на гаспадарцы пакінем. Няхай адно восьмы клас закончыць — у сельскагаспадарчую школу пашлем.

Чарнявы і шчупленькі — увесь у маму — Юрачка гартае падручнік і ўсміхаецца.

— Вось калі збяруцца тут у нас і брат, і сястра, і бацька, і дзеці ўсе з'едуцца — гоман у хаце, шум, а на душы ў мяне вялікая радасць, — прызнаецца Сяргей Германюк. — Проста не верыцца, што гэта ў нас тут, пад Белавежскай пушчай, у Доўгім Бродзе, так змянілася жыццё і выраслі такія людзі.

З акна відаць было зубчатыя вершаліны Белавежы, а за імі недзе на беразе рэчкі Перабелі, у квартале „Пад абарогам", зарослыя ельнікам і брусьнічнікам знаходзіліся ўпадзіны — сляды па колішніх партызанскіх зямлянках.

**Мікалай Гайдук**
**фота аўтара**

## Дарожныя чыны на Беласточчыне

Рэалізацыя грамадскіх дарожных чыноў у нашым ваяводстве ў 1972 годзе, у параўнанні з папярэднім годам, павялічылася на 2,3 працэнта. Асабліва шмат папрацавалі пры гэтым жыхары Гайнаўскага, Дуброўскага, Аўгустоўскага, Кольненскага, Сейненскага і Высокамазавецкага паветаў.

Грамадскім чынам пабудавана 103,3 км дарог, 4 масты і 118 „пшэпустаў".

(ак)

